

№ 34 (195)
Верасень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:

*Ініцыятыва*: створым Кнігу Памяці пра зніклыя вёскі – *стар. 2*

*Асоба ў краязнаўстве*: бяссрэбранік Уладзімір Содаль – *стар. 3*

*Юбілей*: 100-годдзе касцёла ў Мёрах – *стар. 6*

## Памятная дошка ў гонар паэта

На Бялыніччыне ўмеюць шанаваць і берагчы памяць аб знакамітых земляках – людзях, якія сваёй дзейнасцю і апантанасцю пакінулі значны след у нацыянальнай культуры, літаратуры, навуковай, гаспадарчай і іншых сферах жыцця.

У гэтай яркай кагорце землякоў – і паэт Віктар Хаўратовіч, аўтар паэтычных зборнікаў «Сонца на кельме», «Зямныя колеры і гукі», шматлікіх публікацый у раённым, абласным і рэспубліканскім друку.

Пра канцы жніўня на пасяджэнні райвыканкама было прынята рашэнне ўстанавіць памятную дошку на доме ў Бялынічах, дзе працяглы час жыў вядомы пісьменнік-зямляк.

Доўгі час Віктар Хаўратовіч узначальваў літаратурнае аб'яднанне «Натхненне», якое больш за паўвека дзейнічае пры бялыніцкай райгазеце «Зара над Друцццю». І менавіта пад час яго кіравання «Натхненне» перажыло свой найбольшы росквіт, пакінула значны след у літаратурным руху Магілёўшчыны.

Адкрыццё памятнай дошкі паэту Віктару Хаўратовічу, які пайшоў з жыцця ў кастрычніку 1991 года, стане не толькі даніннай памяці і павагі пісьменніку, але і значнай падзеяй у культурным жыцці Бялыніччыны.

**Міхась КАРПЕЧАНКА**

## На тым тыдні...

● У старажытным Полацку **1 верасня** адбылося ўрачыстае адкрыццё **помніка** славутаму князю Усяславу Чарадзею. Помнік стаў першым у Беларусі манументам з коннай статуяй, мае вышыню каля 3,5 метра. Скульптар Аляксандр Прохараў адлюстраваў князя на кані з паляўнічым сокалам і воўчай шкурай на сядле.

● **3 верасня** ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь прайшло адкрыццё выставы **«Скарбы старажытнага мастацтва. Іконы, кнігі, мастацкае ліццё XII–XX стст.»**.

На адкрыцці выступіў дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў. Ён расказаў, што такія сумесныя праекты з рэгіянальнымі музеямі праводзяцца штогод і сталі ўжо добрай традыцыяй. Пасля намеснік міністра культуры Валерый Гедройц расказаў пра Веткаўскі музей народнай творчасці, падзякаваў яго супрацоўнікам, усім арганізатарам выставы. Выступалі таксама прадстаўнікі ўлады Гомельскай вобласці, Веткаўшчыны. Трымалі слова прадстаўнікі Музея Рублёва (Расія).

На выставе (сумесным праекце Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь і Веткаўскага музея народнай творчасці) прадстаўлены ў асноўным творы мастацтва з Веткаўшчыны, якія адносяцца да стараверскай культуры. Экспазіцыя складаецца з некалькіх тэматычных блокаў: «Іканаграфія Хрыста», «Іканаграфія Маці Божай», «Выбраныя святыя і Цалебнікі», «Іконы і кіотцы з уразнымі творамі меднага ліцця». Адначасу створаныя творы можна падзяліць на старажытнарускія помнікі XII – XVII стст. і стараверскія вырабы другой паловы XVIII – XX стст.

З ікон на выставе прадстаўлены, напрыклад, абраз Маці Божая «Знаменне» (пачатак XIX ст. Веткаўская школа), Мікола Цудатворац (1840 г.), Варлаам Хутынскі (XIX ст.), Цалебнік (канец XIX – пачатак XX ст. Веткаўская школа). Адным з найбольш распаўсюджаных прадметаў народнага ліцця на выставе з'яўляецца чатырохстворчатыя складзень «Двунадзесятыя святы».



*Фота Іллі ЛАПАТО*

# Бітва на рацэ Свольна

***Рака дыхала шырока і вольна, калышучы на абветраных хвалях і сінія аблачынкі ў небе, і птушыны розгалас па кустах, і, здавалася, спрадвечны перапёлчын кліч «жаць пара». Толькі бяздонныя віры круцілі-перамолвалі несупынны час, хаваючы ў прадонні даўно пражытае-перажытае. Няма ўжо тых на свальнінскіх берагах, хто нёс на сваіх плячах цяжар скрозь дым і пажарышчы далёкага часу... Ды Свольна помніць усё да драбначкі, помніць і моршчацца яе воды ўспамінамі-згадкамі. Адна з іх, векапомных і незабыўных, – бітва 30 ліпеня 1812 года пад час напалеонаўскага нашэсця.***

А ўзнавіць яе падзеі дапамагае даследчык Л.Л. Драке ў сваім матэрыяле «На месцах бою 30 ліпеня 1812 года ля р. Свольна», змешчаным у ваенна-гістарычным зборніку за 1911 год. Ён пісаў, што «...местность, на которой проходил бой..., находится в Дриссенском уезде Витебской губернии, примерно в 8-ми верстах к северо-востоку от станции Свольно Риго-Орловской железной дороги: проезд к полю этого сражения наиболее удобен просёлками от станции Свольно на дд. Скорино (или Никифоровцы), усадьбу Пользин двор, дд. Пушталево, Сокольшизна и Ермаки к мызе Свольно, далее на д. Пожарище и от неё к переправе через Свольну близ д. Острый конец».

Па ліку войск абодвух бакоў, якія фактычна ўдзельнічалі ў гэтай бітве, яна параўнальна была нязначнай і праходзіла, галоўным чынам, каля двух пераправаў праз Свольну – ля мыза Свольна і паблізу вёскі Востры канец, адлегласць паміж якімі была амаль 2 вярсты, «но дело это, вполне успешное для наших войск по достигнутым ими результатам, имело важным последствием отступление превосходного в силах корпуса маршала Удино за р. Дриссу к Полоцку, несмотря на то, что в день боя, всего в 1/2 перехода от Свольны, стоял в бездействии у м. Волынец целый корпус С. Сира, подчиненный маршалу Удино». Поспеху, якія атрымалі войскі 1-га асобнага корпуса графа Вітгенштэйна ў значнай ступені таксама садзейнічалі, па-першае, слабая інфармаванасць праціўніка аб сілах рускіх войск, якія наступалі да мястэчка Каханавічы і затым да Свольна і, па-другое, дзіўнае размяшчэнне перадавых войск корпуса Удзіно, што былі адкінуты ад Каханавіч да ракі Свольна і занялі пазіцыі на яе правым беразе, тады як галоўныя сілы гэтага корпуса сталі на моцных пазіцыях левага берага ракі, праз якую на гэтым працягу былі ўсяго два масты – ля мызы Свольна і вёскі Востры канец.

Ноч і частка раніцы 30 ліпеня прайшлі спакойна: войскі маршала Удзіно, нягледзячы на значную перавагу ў сваіх сілах, бяздзейнічалі. Перадавыя яго войскі займалі вышыні на правым беразе Свольны, паблізу вёсак Пажарышча і Востры канец, а галоўныя сілы корпуса Удзіно сканцэнтраваліся на левым беразе, насупраць адзначаных пераправаў. Паміж імі рака мела даволі звілістае цячэнне, берагі былі абрывістыя і крутыя, у густых зарасніках. Уздоўж шырокай і адкрытай рачной даліны пралягаў прасёлак, які злучаў абедзве пераправы і зносіны паміж імі ажыццяўляліся толькі праз вёску Пажарышча. Прычым на ўсім гэтым кірунку былі невялікія балоты, праходныя хіба ў сухія поры года. Нягледзячы на параўнальна нязначную шырыню, Свольна ўяўляла сабой істотную перашкоду, пераадолець якую можна было толькі па гэтых двух мастах. Да таго ж, немалаважную ролю адыгрывалі панскі дом са шматлікімі гаспадарчымі пабудовамі пад агульнай назвай мыза Свольна, вялікі сад і агарод, што прылягалі да ракі, высокая агароджа, пад сховай якіх грэнадзёрская рота Пермскага палка сустракала праціўніка знішчальным агнём на пераходзе да пераправаў.

**(Заканчэнне на стар. 3)**





# Створым рэспубліканскую Кнігу Памяці пра зніклыя вёскі?

Рэдакцыя «Краязнаўчай газеты» распачала на сваіх старонках зацікаўленае абмеркаванне, на мой погляд, надзвычай важнага пытання пра маргчымасць і неабходнасць належным чынам увекавечыць памяць пра зніклыя вёскі. Гэтую ініцыятыву ўсяляк падтрымлівае галоўны рэдактар газеты Уладзімір Гілеп, які мае вопыт краязнаўчай працы, праявіў сябе ў развіцці музейнай справы, апякуецца захаваннем помнікаў гісторыі і культуры.

Я далучаюся да распачатай гаворкі, таксама падтрымліваю гэтую карысную ідэю і спадзяюся на яе рэальнае ўвасабленне ў жыццё. А ў «Звяздзе» звяртаюся таму, што яна таксама не раз узнімала падобныя пытанні, найперш – пра зніклыя назвы вёсак, зацікаўлена піша пра праблемы аховы нашай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны.

Гаворка на старонках «Краязнаўчай газеты» падаецца вельмі актуальнай, патрэбнай і своечасовай. І не толькі таму, што зніклыя вёскі – гэта наша гісторыя, гэта лёс не аднаго пакалення нашых землякоў, якія, як і сотні, тысячы іхніх папленчнікаў, годна дбалі пра лёс сваёй зямлі наогул і той вёскі, вёсачкі ці хутара, дзе яны жылі. Наш святы абавязак – захаваць памяць пра месцы пражывання нашых суграмадзянаў. Каб не давялося праз дзесяцігоддзі ці нават праз стагоддзі адшукваць не толькі назвы былых пасяленняў чалавека, але і раскопваць земляны пласт, каб дабрацца да культурнага слоя і даведацца, што было на тым ці іншым месцы, як жылі там людзі, чым займаліся, якія матэрыяльныя памяткі пра сябе пакінулі.

Адно я дадаў бы да вёсак і хутары, якіх нямала было на нашай зямлі і якія таксама ў розны час і па розных прычынах перасталі існаваць. Тым больш, што такім чынам мы захавалі б і ўшанавалі багацейшы тапанімічны пласт, да якога адносяцца назвы вёсак. Ушанаваць, увекавечыць, засведчыць для будучых гісторыкаў іх значэнне – надзвычай важна. Страцім час, і зрабіць гэта потым будзе цяжэй, запатрабуецца нашмат больш сіл і намаганняў.

Завяршыць гэтую акцыю я прапаную выданнем рэспубліканскай Кнігі Памяці зніклых вёсак, магчыма, у некалькіх тамах. Бо сягаць трэба ў глыбіню як мага далей, а не абмяжоўвацца мінулым стагоддзем. Дарэчы, пра неабходнасць выдання падобнай кнігі піша ў «Краязнаўчую газету» Віктар Арцем'еў з Магілёва.

Гэта зусім рэальна, бо добры вопыт у нашай краіне ёсць. Зусім нядаўна з зацікаўленай падтрымкі дзяржавы закончылася выданне больш як статомнай унікальнай серыі гісторыка-дакументальных хронік раёнаў і гарадоў Беларусі «Памяць». Цяпер, як кажуць, і сам Бог спрыяе, каб такое ж выданне было прысвечана зніклым вёскам, хутарам і іншым паселішчам беларускай зямлі. Пакуль не забыўся вопыт, не згубіліся ранейшыя напрацоўкі.

На мой погляд, зрабіць гэта магло б выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя». Падрыхтоўчую працу па выяўленню такіх паселішчаў, складанню методыкі напісання артыкулаў распачаць трэба як мага хутчэй, не марнуючы часу. Спадзяюся, што да яе рэалізацыі годна падключацца бібліятэкі, якія і сёння актыўна займаюцца краязнаўствам. Чуў, што Гродзенская абласная бібліятэка імя Карскага ўжо спрабуе нешта рабіць у гэтым напрамку. Перакананы, што не застануцца ўбаку і нашы краязнаўцы, раённыя, школьныя і іншыя грамадскія краязнаўчыя музеі. Агульнымі намаганнямі мы здолеем выявіць, адновіць, захаваць і перадаць наступнікам багатую памяць пра нашу зямлю, наш беларускі род і радавод, пра нас з вамі, адным словам.

Дык што, створым рэспубліканскую Кнігу Памяці пра зніклыя вёскі?

***Анатоль БУТЭВІЧ, пісьменнік, краязнаўца***
*(Паводле газеты «Звязда»)*



*Там, дзе некалі людзі жылі...*

*Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

# Клопат аб загінулых

26 жніўня ў Мемарыяльным парку ў Нью-Йорку адбылося адкрыццё памятнага знака яўрэям Лагойска, якія былі знішчаны нацыстамі 30 жніўня 1941 года. На адкрыцці прысутнічалі землякі і родныя загінулых. Да гэтага ў Мемарыяльным парку былі адкрыты знакі ў памяць аб яўрэях, загінулых у Бялынічах, Глуску, Ельску, Круглым, Мінску і Шапялевічах.

Выступаў на адкрыцці помніка Якаў Касоўскі, які перажыў нацысцкую акупацыю. Ён расказаў аб тым, як адбываўся расстрэл яўрэяў Лагойска і вёскі Гайна. Людзей прыгналі да месца расстрэла пешшу, потым быў загад – зняць адзенне і абутак. Калі пачалася страляніна, некаторыя намагаліся бегчы. Якаву з братам гэта ўдалося. Яны перажылі трагедыю гета Барысава і Мінска, а потым пайшлі да партызанаў.

Пасля вайны на брацкай магіле ў Лагойску быў узведзены помнік. Па словах Якава Гутмана, амерыканцы (выхадцы з Лагойска) збіраюць сродкі і накіроўваюць іх у Беларусь для тых, хто даглядае гэты помнік.

*Паводле матэрыялаў інтэрнета*

***Традыцыі і сучаснасць***

# Заўсёды модны Янка Купала

*Янка Купала 1882–2007 (да 125-годдзя), Мн., 2007, Франак Вячорка*

2007 год – юбілейны для нашай літаратуры. 25 чэрвеня (7 ліпеня) народнаму паэту Беларусі Янку Купалу споўнілася 125 гадоў. Натуральна, такую падзею не абыйшлі ўвагай і разнастайныя прадзюсерскія ды выдавецкія цэнтры. Дый у нас стала ўжо добрай традыцыяй шанаваць нашых знаных дзеячаў культуры да вялікіх дат адмысловымі музычнымі альбомамі-прысвячэннямі (гэтак было да 100-годдзя Сяргея Новіка-Пяюна, 95-годдзя Ларысы Геніюш, 100-годдзя Міхася Забэйды-Суміцкага, 115-годдзя Міколы Равенскага, 185-годдзя Станіслава Манюшкі...). Не забылі і Купалу.

Калі вы схільныя прадбачыць у гэтай ініцыятыве дзейнасць вядомага лэйблу «БМAgroup», які і праслаўіўся такімі юбілейнымі трыб'ютамі, дык мусім ці то засмуціць вас (калі вы адданы фэн «БМAgroup»), ці то пацешыць (калі глядзіцё на жыццё шырэй): не, ініцыятыва ў гэтым накірунку пашырацца. Дый новага прадзюсера вы, пэўна, таксама ведаеце: гэта Франак Вячорка, які адзначыўся на беларускім музычным рынку такімі папулярнымі альбомамі, як «Партызанская школа», «Я люблю ліцэй: веру ў цябе», аўтарскім дыскам славутага барда Сержука Сокалава-Воюша «Песні лісоўчыкаў».

Але ў такім выпадку само сабой мімаволі напрошваецца параўнанне песенна-паэтычных складанак Франака Вячоркі з аналагічнымі праектамі Віталя Супрановіча. І выйграе, пэўна, апошні, бо ў ягоных паэтычных трыб'ютах і песень пад завязку (па 80, а не 37 хвілінаў кожны), і на адкрыцці значна больш багатыя выданні «БМAgroup»: то нікому не вядомы Яраш Малішэўскі складзе вартасную канкурэнцыю знакамітым мегазоркам, то гурт «Бава» нагадае зыркія старонкі нашай нядаўняй музычнай мінуўшчыны, дый нямала вядомых артыстаў кшталту «P.L.A.N.», «Голая Манашка», Віктар Шалкевіч выступалі ў трыб'ют-праектах «БМAgroup» з экстрановымі песнямі. Натуральна, у такім варыянце працы выдаткі на студыю займалі нямала сродкаў, але ж і вынік быў уразлівы.

Новае пакаленне выдаўцоў на студыі акурат і зэканоміла, абмежаваўшыся ўсяго толькі банальным падарожжам па матэрыялах беларускіх дыскатэк мінулага.

Напрыклад, купалаўскае «Не загасну зоркі ў небе» лепш за ўсё атрымалася, бадай, у звышпапулярным праекце «Я нарадзіўся тут». Мала вам было яго паўдзесятка выданняў рознымі лэйбламі, дык зараз яшчэ і па частках расцягваюць гэты альбом (самае прышпільнае, што менавіта такая перасцярога стрымала Супрановіча ад жадання ўзяць з «Я нарадзіўся тут» песню «Беларуска» гурта «Kriwi» для трыб'юта Ларысе Геніюш). А вось Франак узяў адтуль не толькі «...зоркі», а яшчэ і песню «А ў бары, у бары».



А мо такой бяды, што ў праект трапляюць такія паўторы (да названых трэба дадаць яшчэ «Я ад вас далёка» з аднайменнага альбома Данчыка, «У вырай» гурта «Ростра» з складанкі «Песні Свабоды'3» і г.д.), бо менавіта ж тут яны трапляюць у важкі купалаўскі кантэкст. Нават знакамітае мулявінскае ўвасабленне Купалавай «Малітвы за Беларусь» змяняе тут свой кантэкст да больш грунтоўнага ў параўнанні з песняроўскім рымэйк-альбомам «2001».



*«Песняры» – для Купалы: І. Лучанок, Л. Барткевіч і Ул. Мулявін (1974 г.)*

Песняроўцам тут увогуле пашанцавала, бо нават легендарны іхні фронтмен 1970-х Лявон Барткевіч трапіў сюды з унікальным трэкам «Не судзіла ты мне, доля» свайго цалкам невядомага на радзіме сольнага амерыканскага альбома «Спявай мне, дзяўчынка...» (1989). І гэта не ўсё: сюрпрыз новага выдання ў тым, што знакамітую песню Рыгора Пукста «Шумныя бярозы» ў ягоным выкананні ўзялі не з барткевічаўскага спліта з Данчыкам «Мы адной табе належым» (1990), які тут многім вядомы па лонгплэях і касетах, а з сапраўдных фанаграфічных рарытэтаў 1970-х, якія так нідзе і не выдаваліся. Дый знакамітую песняроўскую «Спадчыну» асабліва прыемна тут паслухаць з голасам маладога Барткевіча, каб адэкватна параўнаць яе з мулявінскім рымэйкам 2001 года.

Зрэшты, не абыйдзецца і без татальных адкрыццяў. Такіх, напрыклад, як фрагмент «Зіма» з паэмы «Адвечная песня», эфектна прадстаўлены пад таямнічым брэндам «Тэатр беларускай драматургіі» (вакал Тацціяны Мархель, голас якой пачынае альбом «Краіна доўгай белай хмары» гурта «Ulis»). Дарэчы, і гэты ўрывак з аднайменнай рок-оперы атрымаў адмысловы прыз на адным з рок-фестываляў Украіны. Трэк гэты ў стылістыцы progressive-rock не саступае ў хітовасці нават наймаднейшым сучасным мегатрэндам.

Знойдзе сваіх адданых фэнаў і каркаломны кавер сусветнага шлягера 1970-х «What Can I Do» брытанскага гурта «Smokie», куды бард Зміцер Бартосік здолеў упіхнуць купалаўскі верш «Я мужык-беларус». Атрымалася і весела, і павучальна.

Так што дыск, зрэшты, атрымаўся дастаткова разнастайным ды інтрыгуючым, каб вартасна прэзентаваць нашага вялікага паэта сучаснікам. Вось толькі шкада, што гурт «P.L.A.N.», які акурат тым часам рэпетаваў сваю новую песню паводле хрэстаматыйнага купалаўскага «А хто там ідзе?», так і не паччў нічога пра гэты праект, але мо трапіць у другі тыраж.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***





# Пранёс любоў да роднага слова праз усё жыццё

## Уладзіміру Содалю – 70 гадоў

***Сёлета 13 верасня беларускаму літаратуразнаўцу Уладзіміру Содалю спаўняецца 70 гадоў. У сваім інтэрв'ю жлобінскай раённай газеце ў 1990 годзе ён успамінаў: «Нарадзіўся ў вёсцы Мормаль Жлобінскага раёна 13 верасня 1937 года. Паводле матчыных слоў, быў гром, капалі бульбу, ды яшчэ ў гэты год быў вялікі сталінскі хапун... У маленстве шмат разоў мог загінуць, але лёс ашанаваў. Цяжкае вясковае пасляваеннае жыццё ўвесь час рухала думку, каб вырвацца з гэтай галечы, з гэтай беспрасветнасці, з жабрацтва. Тагачасная рэчаіснасць змушала многіх з нас да ранняга сталення. Гадаваліся мы без бацькоў, жылі ў зямлянках, харчаваліся, як патрапіць».***

Праз шмат дзесяцігоддзяў пасля растання з малой радзімай, Уладзімір Ільіч у адным з лістоў да аўтара гэтага артыкула засведчыў: «Мяне ведае ў Мормалі цяпер мала хто, толькі старэйшыя. Шмат тут жыве людзей з усяго божага свету. Мормаль ужо мой і не мой... І прырода тут ужо не тая. Высеклі дрэвы, асушылі балоты. Зніклі шматлікія азярынкі, паплавы, затокі і тоні. І найбольшы мой боль – знікла мормальская рачулка... парасла травой. А я ж яе помню метраў на пяць-сем ушыркі і паўнаводнай, і рыбнай... Чаму гэта мне, а нікому іншаму так шчыміць за лёс рачулкі майго маленства? Нядаўна мне мама расказала: калі я быў маленькі, хварэў на коклюш. Коклюш забіваў мяне, і тады ёй падказалі занесці мяне да рэчкі і пасядзець са мною над вадой – і кашаль адхлыне. І яна насіла, і неяк разам з рэчкай выхадзіла мяне. То як жа мне быць абыякавым да рачулкі... З трыма вялікімі ранамі з радзімы – за школу (маецца на ўвазе старая школа; закрытая ў канцы 80-х, сёння разбурана. – **М.Ш.**), за млын (яго яшчэ будаваў дзед пісьменніка Павел. – **М.Ш.**) і рачулку я сустракаю сваё шасцідзесяцігоддзе».

Але, успамінае далей Уладзімір Ільіч, «...ад майго колішняга Мормаля ацалела яшчэ... ціхая-ціхая, паблізу старой школы вулачка. Якраз на ёй я і нарадзіўся. Адсюль пайшлі ўсе мае дарогі».

Пісаць Уладзімір Содаль пачаў пры наступных абставінах: «У першай палове пяцідзесятых гадоў у Мормальскай школе панавала якоесь незвычайнае захапленне друкам, – сведчыць сам пісьменнік. – У газеты пісаў шмат хто. Для нас было незвычайна атрымаць нават адказ з рэдакцыі. Вось на гэтай хвалі пачаў і я пасылаць свае допісы ў розныя выданні».

Не кінуў Уладзімір Содаль пісаць і пасля заканчэння школы, калі працаваў загадчыкам клуба і бібліятэкі. Пісаў ён дзённікі, у раённы друк, у «Гомельскую праўду», «не раз турбаваў і мінскія газеты». Вядома, пісаў і вершы. Ды, як гэта звычайна ў такой сітуацыі бывае, дапісаўся. За праўду і прынцыповасць мясцовае начальства проста выжыла яго з роднай вёскі. І падаўся малады хлопец у 1956 годзе аж у Мурманск і ўсю дарогу імкнуўся адказаць на пытанне: «Што я там забыў?»

І, сапраўды, Уладзімір Содаль на Поўначы не затрымаўся, вярнуўся ў родную Беларусь. У 1963 годзе скончыў Мінскі педагагічны інстытут, а з 1967 года яго жыццё цесна звязана з Беларускім тэлебачаннем.

І ўвесь гэты час Уладзімір Содаль па-ранейшаму працягваў пісаць. Але да першага асобнага выдання трэба было чакаць аж да 1977 года, калі ўбачыла свет яго кніжка «Людзьмі звацца». Сам Уладзімір Ільіч тлумачыць гэта так: «Такія людзі, як я, не патрэбныя былі грамадству, якое рухалася да камунізму...»

У 1982 годзе выходзіць у свет яшчэ адна кніжка – «Пуцявінамі сейбіта» (пра Янку Купалу). Але зноў жа як першае, так і другое выданне мала хто чытаў на Беларусі. Абедзве кніжкі выдала газета «Голас Радзімы» ў сваёй бібліятэчцы і яны пайшлі за мяжу да суайчыннікаў.

Мы ўжо згадалі пра Янку Купалу, але асноўную ўвагу, як гісторык літаратуры, Уладзімір Содаль аддае другому класіку беларускага мастацкага слова – Францішку Багушэвічу. Больш таго, Уладзіміра Содаля можна назваць найбуйнейшым даследчыкам жыцця і творчасці гэтага пісьменніка. Сведчаць пра гэта кніга-альбом «Францішак Бенядзікт Багушэвіч» (1986), «Кушлянскі кут» (1990), «Сцежкамі Мацея Бурачка» (1990), «Жупранская старонка» (1991) ды іншыя. Уладзімір Содаль таксама быў укладальнікам кніг Ф. Багушэвіча «Мая дудка» (1987), «Каму дудка паслушна...» (1990), «Творы» (1991).



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА

Значнае месца ў жыцці Уладзіміра Содаля займала тэлебачанне, дзе ён працаваў звыш трыццаці гадоў. У тым, што Уладзімір Ільіч трапіў на тэлебачанне, ёсць свая выпадковасць і заканамернасць. «Тэлевізіі патрэбен быў стыліст, – сведчыць Уладзімір Содаль у артыкуле «На службе ў дзесятай музе». – Вось мяне і ўзялі на гэтую пасаду. Адрэкамендавалі як добрага знаўцу мовы...»

Вельмі хутка Уладзімір Содаль зразумеў, што ён родную мову «ведае прыблізна». Але не разгубіўся, а пачаў больш патрабавальна ставіцца да сябе, удумліва даследаваць роднае слова. У выніку Уладзімір Содаль стаў адным з самых аўтарытэтных знаўцаў, скажам так, таямніц беларускай мовы. Акрамя ўсяго, пісьменнік стаў стваральнікам папулярнай тэлеперадачы «Роднае слова», ганарыцца ён і цыклам перадач «Гаворым па-беларуску».

Родная мова для Уладзіміра Ільіча – гэта яшчэ і боль. Ён нястомна паўтарае словы Францішка Багушэвіча: «Наша мова для нас святая, бо яна ад Бога даная, як і другім добрым людцам... Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!».

Разам з мовай Уладзімір Ільіч актыўна прапагандаваў на тым жа тэлебачанні жыццё і творчасць беларускіх пісьменнікаў. Так з'явіліся навукова-папулярныя тэлеперадачы «Паўлюк Багрым», «Сірочы хлеб» Янкі Брыля, «Ад імя народа» – пра Францішка Багушэвіча, «Стану песняй у народзе» – пра паэтэсу Алаізу Пашкевіч (Цётку) ды іншыя. А колькі Уладзімірам Содалем падрыхтавана розных кінасюжэтаў! Сярод іх – пра Максіма Танка, Ніла Гілевіча, Пімена Панчанку, Уладзіміра Караткевіча, пра шмат каго іншага.

***Уладзіміру Содалю – 70! Але ў яго па-ранейшаму шмат творчых планаў. І перш за ўсё яны тычацца Францішка Багушэвіча. «Шмат чаго ёсць расказаць пра гэтага бяссрэбніка,»– сведчыць пісьменнік. А яшчэ наш зямляк не стамляецца паўтараць: «Жыву без зайздрасці, без сквапнасці, без прагі да грошай. І радуюся за творчыя поспехі калегаў, за іх плён не дзеля сябе, а дзеля Беларусі».***

*Мікалай ШУКАНАЎ,*
*супрацоўнік жлобінскай райгазеты «Новы дзень»,*
*краязнавец*

### Sodaniana

**Урыўкі з «Рыфмаванага даследавання пра знаходжанне і паходжанне»**

*Пачаў капаць ён радавод*
*Праз кніжкі і архівы.*
*Адзін капаў мо 20 год –*
*Дайшоў мястэчка Хівы.*
*...*
*Аселі Содалі пад Гомлем,*
*Дзе вельмі дробны жыў народ.*
*Укарчаваліся там комлем*
*І каранямі напярод.*
*Шэсць тысяч год*
*таму мінула –*
*І нарадзіўся сам Уладзя.*
*Прарваўся з болем,*
*нібы скула,*
*У бальшавіцкае бязладдзе.*
*Пялёнкі скінуў. Чуе: зноў*
*Рабуюць, гады нашу мову!*
*На сметнік словы выкідаюць*
*І на'т Купалу не пытаюць.*
*А хто падскочыць, як арол,*
*Таго да цюпы і на кол!*

*Уладзя рана зразумеў,*
*Што стане*
*вырадкам-манкуртам,*
*Калі забудзе матчын спеў,*
*Ды папляцецца разам*
*з гуртам.*

*І ён той гурт затармазіў*
*Ад скону родным словам.*
*Ён і тлумачыў, і прасіў:*
*Не затапчыце мову.*

*Уладзя – хлопец-задзірака,*
*А наравісты – нібы конь.*
*Яго лупілі – ён не плакаў,*
*А лез у моўны жар-агонь.*
*...*
*Падмурак Содалеў – аснова,*
*Чым жыў, жыве і будзе жыць*
*Сваё, ад маткі – роду слова,*
*Якое век не задушыць.*

*Яго ён нянчыць і ратуе,*
*Яго як стражнік сцеражэ,*
*Яго ён славіць і рыхтуе.*
*Яно яму найдаражэй.*
*...*
*Трыум, напэўна, мовы будзе,*
*Бо сам калісьці гаварыў,*
*Што беларусы –*
*гэта ж людзі –*
*Ніхто іх мове не вучыў.*

*Капай, Уладзя, словаў горы,*
*Памый, пачысці, прасушы.*
*Хай у Эдэм не трапім скора –*
*Хоць пагаворым ад душы.*

*Крычы, Уладзя! Кідай кліч,*
*Бо ты ж і Содаль, і Ільіч!*
*Ты ж хлопец шустры*
*і ўдалы –*
*Бач, атабарыўся*
*каля Купалы...*

***Паўлюк ЗАДЗІРАСТЫ***

*1997*

# Бітва на рацэ Свольна

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Бой ля гэтай мызы і пераправы праз раку вызначаўся асаблівай жорсткасцю. Тут палеглі геройскай смерцю камандзір 25-га егерскага палка палкоўнік Дзянісаў. Асабліва ж вызначыўся маёр гэтага палка Гарбееў, падтрымліваючы сіламі роты стралкоў, якіх атакоўвалі французскія кірасіры. Яны ўварваліся на мызу, але, атакаваныя эскадронамі Гродзенскага (пазней 6-га гусарскага Клясціцкага) палка, павярнулі назад да пераправы і амаль усе загінулі, пераколатыя гусарскімі штыкамі і патопленыя ў Свольне. Адначасова ішоў напружаны бой блізу вёскі Востры канец і каля маста праз раку. Ён скончыўся поўным разгромам французскіх войск.

Усе 4 эскадроны 14-га ўланскага Ямбургскага палка прымалі ўдзел у бітве 30 ліпеня на левым фланзе баявога размяшчэння рускіх разгорнутым фронтам, наступалі ў напрамку вёскі Востры канец, маючы за сабой цяжкую батарэю, грамілі вялікія сілы працўніка, які памылкова меркаваў, як піша аўтар, што насупраць французаў знаходзіўся толькі адзін кавалерыйскі полк. Умелы манеўр, правільная арыентацыя на мясцовасці прывялі да заканамернага зыходу: вёска Востры канец была адбіта, французы адкінутыя за раку. Бітва 30 ліпеня на рацэ Свольна мела важныя вынікі. Упорства і настойлівасць дзеянняў рускіх войск прымусілі Удзіно зноў жа памылкова меркаваць, «что к нам подошли сильные подкрепления и потому французский маршал не только отложил своё наступление, предписанное ему Наполеоном, но и отошёл к Полоцку». Страты французаў склалі 1500 чалавек, 300 узята ў палон, між тым як рускіх войск забітымі і раненымі – да 500.



Ваколіцы Валынцаў

**Надзея САСНОЎСКАЯ,**
**дырэктар Валынецкага дзяржаўнага краязнаўчага музея імя Чэрскага,**
**Эдуард ЗУБРЫЦКІ,**
**пісьменнік**





# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



*(Працяг. Пачатак у №№ 3–33)*

Пасля вылячэння, у красавіку, ён спрабуе яшчэ адзін рэдактарскі хлеб – пасля Ф. Аляхновіча рэдагуе газету «Беларускае жыццё», супрацоўнічае са штотыднёвым часопісам «Рунь» і з трывогай назірае за пачаткам 25 красавіка савецка-польскай вайны. 24 чэрвеня ў Мінску, у зале былога юбілейнага дома, адбудзецца ўрачысты сход з нагоды 15-й гадавіны з пачатку літаратурнай дзейнасці Купалы, якую шырока адзначаць найперш «нацыяналістычныя» выданні (адно з іх, «Рунь», выйдзе апошні раз 4 ліпеня; «Беларусь» – 9-га). 11 ліпеня ў Мінск увойдуць савецкія часці.

Купалу новая (чарговая) улада магла прыпісаць супрацоўніцтва з ранейшым акупантам, тым больш, што ён асабліва нідзе не вітаў Вялікі Кастрычнік і яго правадыроў (пра гэта ён будзе пісаць пазней, але і гутарка пра гэта апасля), ды яго нібы абмінулі падазрэнні. Ён пачне працаваць рэдактарам беларускіх выданняў літаратурна-выдавецкага пададдзела народнай асветы Мінскай губерні. 1 верасня ў Мінску пачаў выходзіць часопіс «Вольны сцяг» (выдаваўся да 1 студзеня 1922 года), у якім ён быў фактычным рэдактарам. 14 верасня ў Мінску адкрываецца БДТ-1 (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы). У гэтым жа месяцы Купала пачне падымацца па службовай лесвіцы – стане намеснікам загадчыка літаратурна-выдавецкага аддзела Народнага камісарыята асветы БССР. На пачатку 1921-га яго прыцягнуць да навуковай працы – увядуць у склад членаў Навуковай камісіі па складанні і апрацоўцы навуковай тэрміналогіі, што тады было неабходнай справай для маладой рэспублікі. Як і задума стварыць навуковы цэнтр культурнай работы ў Беларусі – Інстытута беларускай культуры, у склад камісіі па стварэнні якога таксама ён увайшоў. Нарэшце скранулася і іншая жаданая для яго справа: хоць у рэспубліцы было цяжка пасля вайны, тым не менш калегія Дзяржвыдавецтва вырашыла выдаць на беларускай мове ягоныя выбраныя творы «в самом срочном порядке в изящной форме, на хорошей бумаге и в художественной обложке в количестве 10 000 экземпляров». Было таксама вырашана па просьбе школ і культурных устаноў надрукаваць партрэт Купалы ў 10 000 экземпляраў. Сёння можна з усмешкай прачытаць пра тое, што ў ліпені 1920-га на высокім узроўні было вырашана «выдаць адны новыя боты вядомаму беларускаму пісьменніку Янку Купалу» ці «выдзеліць 200 цаглін і два вазы гліны» для рамонту ягонай кватэры (а дарэчы, жыў ён тады са Зм. Бядулем у будынку I з'езда РСДРП), але тады, у бясхлебіцу, гэта, як і выдзяленне пайкоў, успрымалася інакш, як простая, але неабходная турбота пра побытавыя клопаты песняра.

# Мінскія адрасы Янкі Купалы

***Зайздрошчу рускім даследчыкам, якія маюць магчымасць карыстацца не толькі афіцыйнымі дакументамі, але і шматлікімі мемуарнымі і эпісталярнымі крыніцамі. Не паспеў, напрыклад, А.С. Пушкін вярнуцца дахаты са свецкага раўта, а некалькі мемуарыстаў, пазначыўшы дату, ужо занатавалі ў дзённіках або напісалі ў лісце сябрам, дзе быў паэт – і дакладны адрас, з кім і аб чым размаўляў, і хто яшчэ быў сведкам гутаркі, з якой з пецярбургска-маскоўскіх прыгажунь танцаваў. Можа, таму з цікавасцю чытаеш артыкулы і манаграфіі кшталту «Пецярбург Пушкіна» (або Блока, Дастаеўскага), «Масква Пушкіна» (Лермантава, Талстога), з задавальненнем наведваеш мясціны, звязаныя з імёнамі любімых пісьменнікаў і іх літаратурнымі героямі.***

Як бы хацелася, каб і беларускія аматары прыгожага пісьменства не абмяжоўваліся наведваннем літаратурных музеяў, Вязынкі, Мікалаеўшчыны, а змаглі пашырыць свой кругагляд, паблукаць па вуліцах Мінска, якія помняць нашых класікаў і іх літаратурных герояў. Хоць горад у канцы XIX – пачатку XX стагоддзяў яшчэ не быў цэнтрам нацыянальна-культурнага адраджэння, але ў ім жылі (хто болей, хто меней) Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Максім Гарэцкі. У Мінску адбываецца дзеянне «Тутэйшых», некаторы час тут жыве Мацей Мышка з «Віленскага камунарам». Дарэчы, маршруты Мікіты Зносака (Кафедральны пляц (Саборная, пл. Свабоды), Губернатарская, Юраўская (Юр'еўская), Койданаўская) у нечым супадаюць з тымі, па якіх хадзіў і дзе жыў сам Янка Купала.

З мінскіх адрасоў Янкі Купалы хрэстаматыйна вядомыя два – Дом-музей I з'езда РСДРП, у якім паэт жыў разам з сям'ёй Змітрака Бядулі, і месца ў парку, дзе зараз знаходзіцца будынак Літаратурнага музея яго імя. Да Другой сусветнай вайны менавіта тут стаяў утульны дамок, у якім жыла гасцінная сям'я Луцэвічаў.

Упершыню бацька, маці і чацвёра дзяцей Луцэвічаў прыехалі ў Мінск у 1890 годзе. Бацька, Дамінік Ануфрыевіч, добра разумеў важнасць адукацыі, хацеў, каб старэйшы сын вучыўся ў рэальным вучылішчы. Ён купіў каня і пачаў працаваць рамізнікам. Нагадаю, што 1890 год – важны ў развіцці Мінска: менавіта тады ў горадзе была пракладзена першая лінія гарадскога транспарта – конка – ад Брэсцкага вакзала (зараз Таварная станцыя) да Старажоўкі і пачаў дзейнічаць новы водаправод. Сям'я Луцэвічаў пасялілася амаль у цэнтры, у доме земляка-мешчаніна з Радашковіч. Дом стаяў на рагу Аляксандраўскай (цяпер М. Багдановіча) і Набярэжнай вул., насупраць моста цераз Свіслач. А двор дома выходзіў на Старавіленскую вуліцу, дзе была лазня. Самае цікавае, што лазня існавала да пачатку 60-х гадоў XX стагоддзя, таму каардынаты дома, дзе жыў будучы паэт, можна аднавіць амаль дакладна. Нават у канцы XIX стагоддзя, як і зараз, гэтае месца ў горадзе было надзвычай неспакойнае. За мостам – Няміга – гандлёвая частка горада, Ніжні рынак. А вышэй, на Траецкай гары (зараз плошча Парыжскай Камуны, дзе стаіць тэатр оперы і балета), была вялікая пустка, дзе таксама месціўся адзін з самых вялікіх рынкаў. Сяляне прывозілі на кірмаш разнастайныя тавары, і ўсё было застаўлена вазамі.

Васьмігадоваму хлапчуку было цікава назіраць за жыццём у незнаёмым горадзе. Ён сустракаўся з рознымі людзьмі, што, бясспрэчна, пашырала яго кругагляд. Амаль з упэўненасцю можна меркаваць, што Ясь сустракаў на вуліцы сямейную пару – будучых бацькоў М. Багдановіча. Марыя Апанасаўна і Адам Ягоравіч жылі зусім побач, на Аляксандраўскай, 25.




*Фрагмент карты Мінска з маршрутам конкі (1898 г.): стрэлкамі пазначаныя месцы, дзе жыў ці бываў Я. Купала*

Бацька аддаў сына ў прыватную падрыхтоўчую школу, але «настаўнік любіў піць запоем», таму з вучобай нічога не атрымалася.

Відаць, справы Дамініка Ануфрыевіча ішлі не лепшым чынам і сям'я была вымушана пакінуць Мінск. Рэальнае вучылішча, якое знаходзілася на рагу Захар'еўскай і Паліцэйскай (зараз пр. Незалежнасці – вул. Я. Купалы), засталося непакоранай вяршыняй.

Нельга катэгарычна сцвярджаць, што да 1913 года паэт не прыязджаў у Мінск, але дакладных дакументаў яго прабывання ў горадзе не вочы не траплялася. Купалаўскім адрасам можна лічыць рог Захар'еўскай і Губернатарскай вул. 84/28 (вул. Леніна – пр. Незалежнасці) – дом Мельцара, дзе знаходзілася рэдакцыя газеты «Северо-Западный край», у якой 15 мая 1905 года надрукаваны верш «Мужык». Верагодна, што заходзіў Янка Купала да У.І. Самойлы – аднаго са сваіх добрых геніяў, які пазнаёміў паэта з братамі Луцкевічамі, Алесем Бурбісам, рэкамендаваў яго рэдактару «Северо-Западного края» М.П. Мысаўскому. Так што наведванні ў Мінск былі, але дакументальна яны не зафіксаваны, акрамя даты – 3 чэрвеня 1913 года, калі Янка Купала з'явіўся ў Першую паліцэйскую часць г. Мінска з гасцініцы «Адэса» (зараз гэта на рагу вул. Камсамольскай і пр. Незалежнасці, 19, дзе знаходзіцца Цэнтральная кнігарня), а тады – дом Машкілейсона, рог Захар'еўскай і Багадзельнай; там жа быў рэстаран Голуба «Мядзведзь», у якім адбываліся музычныя вечары. Янка Купала спыніўся ў гасцініцы па дарозе з Санкт-Пецярбурга ў Акопы, куды ён ехаў да маці Бянігны Іванаўны.



*Дом, у якім з 1920 па 1923 год жыў Я. Купала*

Апошні раз перад рэвалюцыяй паэт наведвае Мінск у пачатку 1916 года, калі прыехаў у горад з маладой жонкай Уладзіславай Францаўнай. Ішла Першая сусветная вайна, паэт павінен быў ісці ў армію. Брат жонкі працаваў у дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносін, ён і дапамог Я. Купалу ўладкавацца ў гэты атрад. У Мінску Я. Купала пражыў амаль 5 месяцаў, сустракаўся з А. Уласавым, Зм. Бядулем.

*Вольга ДЭКОНСКАЯ*

*(Заканчэнне будзе)*





# Педагагічныя клопаты
## Якуба Коласа аб прафесійнай падрыхтоўцы настаўнікаў роднай мовы
### (на матэрыяле эпісталярнай спадчыны)

(Заканчэнне. Пачатак у № 33)

Колас-метадыст будуе сваю прамову на аснове метаду праблемнага пытання (якое практычнае значэнне мае беларуская мова?), ствараючы тым самым пошукавую сітуацыю для слухача. А творчы пошук развівае прагу да пазнання новага, невядомага дасюль, выклікае суб'ектыўнае ўспрыняцце фактаў рэчаіснасці праз прызму аб'ектыўна паданай вопытным настаўнікам інфармацыі. Вынікам чаго, у рэшце рэшт, з'яўляецца заканамернае імкненне да свайго духоўнага адраджэння.

Колас творча падыходзіць да тэарэтычнай часткі сваёй прамовы, свядома адыходзячы ад гадамі выверанай методыкі пабудовы лекцый, «каб панавіць у памяці (курсантаў) метадычныя і педагагічныя прынцыпы». Тэорыя і методыка гарманічна спалучаюцца ў яго лекцыях, так што якасць і глыбіня ўспрыняцця паданага ім матэрыялу курсантам, сапраўдная зацікаўленасць вынікам сваёй лекцыі даюць немалы плён. Такая самааддача і ўвага з боку лектара прыйшліся да спадобы настаўнікам, таму і «слухалі незвычайна ўважліва».

Вялікую каштоўнасць маюць лісты Канстанціна Міхайлавіча слуцкага перыяду яшчэ і таму, што аўтар падымае ў іх важныя пытанні нацыянальнай палітыкі і стаўлення да беларускай мовы ў асяродку настаўніцкай інтэлігенцыі.

З задавальненнем адзначае Колас у лісце, датаваным 8 ліпеня, што «з вялікаю ўважнасцю слухаюць настаўнікі і пачатковых, і сярэдніх школ методыку роднае мовы». «Усё гэта намі забыта, – кажуць яны, – і калі слухаеш методыку, так ясна, так проста напісаную, то ўспамінаеш, што некалі вучыў гэта, і спатыкаеш нешта зусім новае і цікавае. Асабліваe ўражанне зрабіла тое месца методыкі, дзе гаворыцца аб значэнні роднае мовы ў школе».

Канчатковай мэтай навучання на ніжэйшай ступені з'яўляецца, па Коласу, «умелае, актыўнае карыстанне роднаю моваю для выказвання ўласных мысляў і перажыванняў вучня». Дзеля вырашэння гэтай задачы кіраўніцтва курсаў пры шырокай падтрымцы ўрада рэспублікі і мясцовых партарганізацый увяло на курсах выкладанне беларускай мовы па гуртках з параўнальна невялікім лікам слухачоў. «Пры такіх умовах можна спадзявацца добрых вынікаў выкладання, – адзначае Колас у артыкуле «Слуцкія курсы». – Наогул трэба зазначыць, што сярод курсантаў і курсантак знойдзецца не менш 45 процантаў настаўніцтва, якое смела можа весці навучанне ў школах на беларускай мове... У гэтым сэнсе настаўніцкія курсы безумоўна незвычайна важнае значэнне, і слухач, прабыўшы курсавы тэрмін, пройдзе вельмі добрую практычную школу», – падагульняе аўтар сваю ідэю аб неабходнасці дзяржаўнай падтрымкі ідэі беларусізацыі.

Асобна спыняецца Канстанцін Міхайлавіч на атмасферы ў асяродку настаўніцкай інтэлігенцыі, якая склалася вакол пытання аб неабходнасці шырокага ўвядзення беларускай мовы ў школьнае навучанне. Русіфікатарская палітыка на працягу многіх гадоў літаральна спірала са свядомасці носьбітаў беларускай мовы разуменне «людскасці» (Ф. Багушэвіч) апошняй. «Руский язык не может вызывать в полном объёме, когда я пишу, тех ощущений, тех чувств и той колоритности, которые свойственны белорусскому языку, белорусским картинам, в каком даёт белорусский язык, с молоком матери вошедший в мою природу», – тлумачыў Колас.

Далей, у сваёй працы на Слуцкіх настаўніцкіх курсах, Колас выкарыстоўваў сваё «адкрыццё» існавання матчынай мовы ў падсвядомасці кожнага чалавека. Трэба толькі даць ёй магчымасць праявіцца, адкрыцца ў поўнай меры. Патрэбна практыка мовы.

Таму Колас, з горыччу зазначыўшы ў адным лісце, што «сярод старых настаўнікаў прыхільнасці да беларускасці няма» – эразумелы адбітак русіфікатарскай палітыкі, – далей працягвае ў больш аптымістычным настроі: «але гэта не перашкаджае ім пісаць цэлымі вечарамі план лекцыі па-беларуску. Калі не здолее сам, ідзе да другога і перакладае на беларускую мову». Прычыну такой цікаўнасці да беларускай мовы ў асяродку настаўніцкай інтэлігенцыі вядомы педагог бачыць у разумнай арганізацыі курсаў, іх практычнай накіраванасці, ва ўсёй атмасферы і прынцыпах моўнай палітыкі таго часу, калі «канферэнцыі адбываюцца на беларускай мове, пратаколы вядуцца па-беларуску. Гэтыя радкі з ліста прыватнага характару да жонкі Марыі Дзмітрыеўны пацвярджаюць Коласавы нататкі са Слуцкіх курсаў, змешчаныя ўпершыню ў «Савецкай Беларусі» ад 26 ліпеня 1923 года: «На беларускай мове вядуцца лекцыі: практычныя па ўсіх прадметах (па гісторыі рэвалюцыйнага руху, па методыцы роднай мовы і па граматыцы. Іншыя лекцыі чытаюцца па-расійску».

Такая павольная мэтанакіраваная работа прыносіла тым большы плён, калі свядомыя выкладчыкі сваім прыкладам пераконвалі ў неабходнасці вывучэння беларускай мовы, прыўносілі ў агульную справу свае творчыя здабыткі і эксперыменты. Паказальны ў гэтым сэнсе Коласаў падыход да арганізацыі занятка́ў: «Слухачоў 150 чалавек. Чытаць граматыку такой аўдыторыі трудна і безрэзультатна. Надумаліся падзяліць курсантаў на 5 груп па 30 чалавек. На кожную групу назначан выкладчык з складу саміх слухачоў. Гэтыя выкладчыкі вельмі добра ведаюць беларускую мову, маюць сталую практыку ў валоданні беларускай граматыкі. Такім спосабам я скінуў з сябе клопат, узяўшы агульнае кіраўніцтва, і спадзяюся, што вынікі работы па групах будуць вельмі добрыя».

Такі прафесійны метад як гуртковая работа дазваляў настаўнікам выяўляць і прымяняць на практыцы свае здольнасці, праяўляць разумную ініцыятыву падчас практычных заняткаў і на лекцыях, якія «вёў быццам не іх настаўнік, а калі не бацька, дык нехта вельмі прыветлівы са старэйшых сваякоў... Затое настаўнікі вучылі методыку мовы найбольш старанна, каб не ашукаць і яго, і саміх сябе».

Безумоўны прафесіяналізм, майстэрства падыходу да кожнага слухача, разумная патрабавальнасць і грамадзянская адказнасць вядомага культурнага дзеяча былі яскравым прыкладам служэння справе нацыянальнага адраджэння для кожнага студэнта. Дзейнасць Коласа і іншых аднадумцаў аказалася тым больш неабходнай, што гэта была гістарычна першая фаза беларусізацыі, на працягу якой вялася ў асноўным не палітычная і ідэалагічная падрыхтоўка, праводзілася тлумачальная работа сярод насельніцтва. Таму патрэбны быў моцны падмурак, каб такая архіважная справа змагла рушыць з месца і дасягнуць пастаўленых мэтаў.

Канстанцін Міхайлавіч быў задаволены сваёй работай, сваёй канцылярскай роляю «ў курсавым суладдзі», ганарыўся настаўнікамі, высока цаніў іх творчы і інтэлектуальны патэнцыял. Менавіта сваіх курсантаў ён абраў першымі слухачамі толькі што закончанай паэмы «Новая зямля». Яму, як аўтару, патрэбна была прамая сувязь з чытачом. Пісьменнік хацеў пачуць ад патрабавальных і добрых знаўцаў вясковага побыту аб'ектыўныя ўражанні пра свой твор, ацэнка якому была дадзена ўжо ў першы вечар чытання: «Адзін слухач курсаў, непрыхільнік беларускасці, зазначыў: "Я не ведаў, што па-беларуску можна так пісаць. Заранжаце мяне, калі я не навучуся беларускай мове"».

Гэтая фраза, вартая соцень хвалебных слоў, сказаная так проста, найлепшы падарунак пісьменніку, бо ідзе з самых глыбінь сэрца, дае надзею, нават упэўненасць, што той выключны па сваёй сіле зарад энергіі, новых ведаў і ўражанняў, атрыманых настаўнікамі падчас упартай і карыснай працы на настаўніцкіх курсах, панясуць яны ў маленькія паветовыя школы сваім вучням, прагным да ведаў. І прарастуць зярняткі зацікаўленасці каласамі любові да роднай мовы. Тым больш, што гісторыя рушыцца не пастановамі і законамі, а рэальнай штодзённай працай чалавецтва, так і заахвоціць вывучаць і цаніць беларускую мову можна толькі майстэрствам, разумнай, прафесійнаю справаю таленавітых, упартых людзей. Асоба і дзейнасць Якуба Коласа – выразны таму прыклад.

**І. БАРСУКОВА**

*(Паводле зборніка «Каласавіны», 2001)*

(Праця́г. Пачатак у №№ 3–33)

## Якуб Колас: 1924–1926 гады. Ушанаванне народнасцю

У 1920-ыя зусім не было выключэнне, калі многія маладыя асобы займалі не толькі высокія дзяржаўныя, навуковыя ці іншыя пасады, але і мелі адразу некалькі іх. Вярнуўшыся ў Беларусь у 1921 годзе, і Якуб Колас працаваў у самых розных установах – зразумела, як тады казалі, на «культурна-асветным фронце». У 1924-м, засяродзіўшыся на працы выкладчыкам беларускай мовы Белдзяржуніверсітэта, ён займеў выдатную магчымасць ажыццявіць запаветную мару – перапрацаваць напісаныя, стварыць новыя раздзелы паэмы «Сымон-музыка», якой надаваў зусім не меншае значэнне, чым «энцыклапедыі беларускага сялянства» паэме «Новая зямля». Тым больш, што выпала для высакародных намераў спрыяльная магчымасць: у чэрвені па рашэнні тагачаснай камісіі па паляпшэнні быту вучоных (ЦЭКУБУ; тады некаторыя захапляліся абрэвіятурамі) едзе на папраўку здароўя ў Кіславодск, дзе пабудзе з месяц.

Там, мабыць, у даволі спрыяльных умовах захоплена карпее над другой рэдакцыяй «Сымона-музыкі», а ў перапынках, калі адчувае творчую стому, робіць асвяжальныя прагулянкі ці шмат чытае твораў сусветнай літаратуры. З іх на яго вялікае мастацка-эстэтычнае ўражанне робіць карэла-фінскі народны эпас «Калевала» – на першы погляд, твор зусім не славянскага характару, але тым не менш сваімі зместам, сімваламі менавіта ў славным паэтычным полі блізкі да задум ягонай паэмы. Асабліва ў чалавечым асэнсаванні і мастацкім вырашэнні ролі і лёсу творцы (пісьменніка, мастака, музыканта) у грамадстве. «"Калевала" дала мне добры штуршок для работы. Вейнямейнен, разважыў я, памірае ад старасці і тады пакідае свае гуслі народу. Чаму ж мой Сымон павінен канчаць, толькі ступіўшы на дарогу? Хай прынясе людзям радасць і пасля гэтага перадасць у другія рукі скрыпку. Так пакрысе прыйшоў я да яснасці. Стала зразумела, што сіла музыкі стане куды большая, калі яна верне Ганю да жыцця, парушыўшы яе часовае здранцвенне. І няхай хлопец і дзяўчына ідуць далей разам, музыка і яго будучыня. На што канчаць нечым пэўным іх шляхі? Народ жа вечны, вечнае яго мастацтва, вечныя і творцы песні і казкі.» (М. Лужанін, «Колас...»). Хто ўважліва чытаў «Калевалу» і «Сымона-музыку», той можа рэальна ўсвядоміць, што Колас меў на ўвазе і што паспрыяла яму ўзбуйнена выявіць сваю творчую задуму.

Пакуль Колас у Кісла́водску ўспламяніўся ўдыхнуць новае сэнсава-мастацкае напаўненне «Сымону-музыку», на радзіме прадаўжаецца дыскусія наконт яго ўжо закончанай паэмы «Новая зямля».

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*







*У жніўні 2007 года святкавалі 100-годдзе пабудовы касцёла у Мёрах. Але храм мае больш даўнюю гісторыю.*

# Гісторыя Мёрскага касцёла

Паводле ўскосных дадзеных можна меркаваць, што каталіцкі храм тут дзейнічаў ужо ў XVI стагоддзі (хутчэй за ўсё – у апошняй чвэрці). Складанасці звязаныя з тым, што ў даўнія часы было сама меней пяць паселішчаў з такой назвай, у якіх былі і царква, і касцёл, і капліца.

Касцёл у Мёрах не аднойчы згадваецца ў дакументах 1691, 1717, 1744, 1775, 1789 гадоў. Намі ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта выяўлены рукапісы па апісанні мёрскай парафіі ў 1782 годзе. Але найбольш цікавы дакумент знойдзены ў Гродзенскім гістарычным архіве ўдзельнікам дзісненскіх чытанняў дацэнтам Г. Семянчуком. Інвентарнае апісанне мёрскага касцёла і яго маёмасці ад 14 кастрычніка 1823года складзена ў сувязі са смерцю мёрскага ксяндза Яна Клімачэўскага і ўступленнем на гэту плябанію Ежы Чапулевіча. У дакумеце сказана, што касцёл размешчаны ад павятовага горада Дзісна на 7 міль, ад другога парафіяльнага касцёла на тры мілі. Касцёл стары пабудаваны больш за дзвесце гадоў таму, прадаўгаваты з высокай франтальнай вежай. Памерамі невялікі, драўляны, клямарамі ўзмоцнены, дошкамі абабіты. Падмурак з камянёў і цэглы на вапне. Дах па дошках бь ў пакрыты гонтам. Толькі вялікая вежа і малая над прэсбітэрыем былі крытыя бляхай. На іх – вялікі і малы жалезныя крыжы.

Касцёл меў тры маляваныя і пазалочаныя алтары. У вялікім знаходзіўся абраз Святой Тройцы, а над ім Найсвяцейшай Дзевы Марыі «Ружанцовай», побач – яшчэ чатыры абразы. У другім алтары – Найсвяцейшай Дзевы Марыі і святога Антонія. У трэцім была скульптура Пана Ісуса, пад ім абраз святога Яна Непамуцена. Пасярэдзіне касцёла змяшчалася сэрца Ісуса ў выглядзе алтара. Амбон – сталярнай работы, пафарбаваны і пазалочаны. Пад будынкам знаходзіліся два мураваныя склепы, а ў памяшканні, злева – восем лавак. Агароджа вакол касцёла і могілак была з усіх бакоў каменнай, але пераважна разбураная. Каля будынка знаходзілася званіца з драўляных брусоў на падмурку, пакрытая гонтам, з невялічкім бляшаным шпілем і старым жалезным крыжам.

Ўспомнены ў інвентары ксёндз Антоній Чапулевіч выконваў пастарскія абавязкі ў мёрскім касцёле цягам амаль 20 гадоў, карыстаўся вялікай павагай прыхаджанаў. Выступаў супраць актыўнага праціўніка уніі мітрапаліта Сямашкі, за што і быў пакараны царскімі ўладамі: нягледзячы на пратэсты вернікаў, арыштаваны і высланы ў глыбіню Расіі. Мураўёў-вешальнік нават загадаў перарабіць касцёл на праваслаўную царкву, толькі сам ён быў хутка пераведзены з віленскага генерал-губернатарства на іншую пасаду, таму загад не выканалі. Праўда, касцёл некалькі разоў спрабавалі закрыць, бо будынак, сапраўды, быў у аварыйным стане ўжо ў канцы XIX стагоддзя. Непагадзь у 1905 годзе давершыла справу. Паўстала пытанне аб будаўніцтве новага касцёла. Царскі ўрад, напалоханы рэвалюцыяй 1905 года, зрабіў палёгку неправаслаўным веравызнанням. Таму пасля вялізнай папяровай валакіты віленскі губернатар дазволіў узвядзенне ў Мёрах цаглянага касцёла з умовай, каб на месцы не збіраліся ахвяраванні, бо Мёры тры гады запар спасцігаў вялікі неўраджай. Ксёндз Юзэф Бародзіч для збору сродкаў сфарміраваў групы актывістаў, якія раз'язджаліся па Расійскай імперыі; сам ён накіраваўся ў Варшаву ў завадзкія цэхі. Варшаўскія артысты далі вялікі канцэрт, сродкі ад якога былі перададзены на касцёл. Не з пустымі рукамі прыехалі касцельныя актывісты з Вільні і іншых гарадоў. А мясцовыя жыхары дапамаглі будматэрыяламі, фурманкамі, рабочай сілай. Непадалёку ад Мёраў за возерам была пабудавана цагельня, а па возеры для хутчэйшай дастаўкі гэтай цэглы зрабілі паромную пераправу. Якой якасці былі будматэрыялы, можна меркаваць па сённяшнім стане сценаў. Ад іх адскоквалі нават снарады пад час Другой сусветнай вайны.

На будаўніцтве касцёла штодзень працавала па 200 і больш муляроў. І таму ў канцы лета 1907 года была адпраўлена першая імша ў новым будынку.

Велічны цагляны будынак, пабудаваны ў неагатычным стылі, глядзіцца ў люстэрка вады Мёрскага возера. Дзве вежы, нібы дзве рукі, імкнуцца ў неба да Бога. Стрэльчатыя ваконныя праёмы ствараюць яму большую лёгкасць і ўзнёсласць. Вакно-ружа над уваходам з каляровага шкла прыгожа ззяе асабліва ўначы. Невялічкая вежа над уваходам дапаўняе прастору партала. Усярэдзіне касцёл падзяляецца на тры нефы. Ад пачатку стагоддзя захавалася шмат скульптураў апосталаў, Ісуса Хрыста. У касцёле знаходзяцца абразы Маці Божай «Ружанцовай», «Іосіф з дзіцяткам Ісусам», Маці Божая «Чанстахоўская» – усе XIX стагоддзя. З капліцы ў Каменполлі перавезена драўлянае «Укрыжаванне». Пад касцёлам знаходзяцца скляпенні, дзе пахаваны фундатары касцёла Святаполк-Мірскія, бацькі ксяндза Бародзіча.



**У. Пятрайціс; унутранае ўбранства касцёла**

Юзаф Бародзіч нарадзіўся ў 1861 годзе, у 1893-м здаў экзамены ў духоўную семінарыю ў Вільні, якую скончыў у 1897 годзе. Працаваў вікарыем у Лідзе, Новых Троках, Даўгялішках, год адбыў у Гродзенскім кляштары. У 1900 годзе наведаў Рым, дзе папа Леў XIII блаславіў яго на місіянерскую дзейнасць. Потым зноў Вільня, першы пабудаваны касцёл у мястэчку Жозлі. У Клюшчанах узвёў касцёл і плябанію ў гатычназакапанскім стылі. А ў 1905 годзе накіраваны ў Мёры.

Пасля першай імшы ў новым касцёле ксёндз Бародзіч быў арыштаваны і сасланы ў глухамань на Ашмяншчыну, дзе таксама хутка «правініўся» і быў сасланы ўжо ў Расію – спачатку ў Яраслаўль, а потым у Рыбінск. Але і там нейкім чынам яму ўдалося атрымаць права на місіянерскую дзейнасць. Зноў ён пабудаваў вялікі і вельмі прыгожы касцёл на ахвяраванні людзей. Казанні вёў на рускай мове, а не па-польску.

Пасля высылкі Бародзіча будаўніцтва касцёла ў Мёрах прадоўжыў ксёндз Кшыштофік. Канчаткова будаўніцтва было закончана ў 1909 годзе. Першае казанне на беларускай мове ў 1917 годзе прамаўляў вядомы святар-адраджэнец Адам Станкевіч. А ў 1919 годзе ксёндз Грынеўскі ўзначаліў антыбальшавіцкае паўстанне на Мёршчыне.

У 1944 годзе, калі ішлі баі, у касцёл трапіла пяць снарадаў, быў прабіты дах, але храм вытрымаў. З 1951 году да 1956 касцёл не меў сталага святара; савецкія ўлады храм зачынілі, зрабілі з яго зерняховішча. У 1957 годзе пасля зняволення пачынае ў Мёрскім касцёле сваю дзейнасць Казімір Грабоўскі; працуе да смерці (памёр у 1985 годзе), падчас самага разгулу атэістычнай прапаганды сумленна праводзіў душпастарскую дзейнасць. З 1985 па 2001 год святарам і пазней дэканам быў Уладас Пятрайціс (літовец па нацыянальнасці). Пры ім шырока загучала ў святыні беларуская мова, выходзіла газета «Голас душы»; на ахвяраванні на цвінтары быў пастаўлены адзіны ў Еўропе помнік ненароджанаму дзіцяці (скульптары Юрый Аношка, Алесь Дранец, архітэктар Уладзімір Папруга). У 1998 годзе, таксама на ахвяраванні вернікаў, быў пастаўлены помнік Маці Божай з дзіцяткам Ісусам (скульптар Ігар Голубеў).

З 2001 года ксяндзом-дэканам служыць Кшыштоф Мякінэ. Пры ім працягваецца аднаўленне касцёла, ён набыў больш велічны, манументальны выгляд. Наперадзе плануюцца значныя працы па рэстаўрацыі ўнутры касцёла.



**Помнік ненароджанаму дзіцяці**

*Вітаўт ЕРМАЛЁНАК,*
*кіраўнік гуртка*
*«Арганаўты мінулага»,*
*г. Мёры*

# Да Дня беларускага пісьменства у Шклове

### Уздоўж

**1.** Імя сусветна вядомай англійскай пісьменніцы Крысці, аўтара шматлікіх дэтэктыўных раманаў. **2.** Асаблівасці думак, розуму, звычак. **11.** Плод агароднінай расліны, помнік якому быў сёлета адкрыты ў Шклове. **12.** Беларускі археолаг, доктар гістарычных навук, прафесар. Узначальваў экспедыцыі па вывучэнні многіх раёнаў Беларусі, у тым ліку і Шклоўшчыны. Сёлета – 80 год з дня яго нараджэння. **13.** Назва Шклоўскай папяровай фабрыкі, заснаванай ў 1898 г. **16.** Кантрольны лісток на атрыманне чаго-небудзь. **17.** Паэт, фалькларыст і драматург XIX ст. Аўтар рамантычных балад «Свіцязь-возера», «Навагрудскі замак» і інш. **18.** Выдатны танцор тэатра графа Зорыча, Кавалер Георгіеўскага Крыжа, ураджэнец Шклоўшчыны. **21.** Аднадумнасць. **22.** Вялікая форма эпічнай літаратуры. **23.** Літаратурны твор у форме аратарскай прамовы, прапаведзі (саст.). **24.** Начная насекомаядная птушка. **25.** Беларускі пісьменнік, аўтар кніг фантастыкі і дэтэктываў «Другая версія» і інш. Ураджэнец г. Шклова. Сёлета – 85 год з дня яго нараджэння. **26.** Эпізод у п'есе, аповесці і інш. **29.** Беларускі паэт, драматург, публіцыст. Аўтар паэмы-хронікі «Белыя берагі», зборнікаў паэзіі «Атава», «Споведзь» і інш. Ураджэнец г. Полацка. Сёлета спаўняецца 70 год з дня яго нараджэння. **34.** Літаратурная спадчына, пакінутая Я. Купалам і Я. Коласам – ... беларускага народа. **36.** ...-Запольскі. Беларускі гісторык, этнограф, фалькларыст, доктар гістарычных навук, прафесар, аўтар даследвання «Гісторыя Беларусі» і інш. Сёлета – 140 год з дня яго нараджэння. **37.** Беларускі вучоны, доктар медыцынскіх навук, прафесар. Працуе ў Віцебскім медыцынскім універсітэце. Жыў у г. Шклове. Сёлета – 60 год з дня яго нараджэння. **38.** Масавы перыядычны друк. **39.** Дрыгва.

### Упоперак

**2.** Эмблема, нададзеная г. Шклову ў 1762 г. Выява бязмена – сведчанне, што горад быў значным гандлёвым цэнтрам. **3.** Шрыфт буйнога памеру каля 8 мм (спец.). **5.** Магнат ВКЛ. Заснаваў у Іўі арыянскую акадэмію, у Лоскі (Валожыншчына) валодаў друкарняй. У кнігадрукаванні працягваў традыцыі Ф. Скарыны. **6.** У казахаў, кіргізаў – народны паэт-пясняр. **7.** Від тэатральнага мастацтва, якое атрымала ў г. Шклове шырокае развіццё ў канцы XVIII ст. **8.** Шчыльныя вароты, якія калісь закрывалі галоўныя ўваходы ў г. Шклоў. **9.** Пачынай касіць не з ..., а калі вырасце трава (прык.). **10.** Той, хто піша кнігі, стварае музыку і інш. **14.** Адна з дзвюх стараславянскіх азбук. **15.** Даўняя назва прытока Дняпра р. Серабранкі, на беразе якой у XVI ст. быў заснаваны г. Шклоў. **19.** Сярэднявечны палац, які пабудавалі ў г. Шклове ў XVI ст. магнаты Хадкевічы. **20.** Народны пісьменнік Беларусі, удзельнік ВАВ, аўтар рамана «Птушкі і гнёзды» і інш. Сёлета яму споўнілася б 90 год. **25.** Страта. **27.** Будаўнічы матэрыял, які вырабляецца на Шклоўшчыне. **28.** Гістарычна ўстойлівая супольнасць людзей, звязаная агульнасцю тэрыторыі, літаратурнай мовы і інш. **30.** Дзяржаўная ўстанова для захоўвання старадаўніх дакументаў. Сёлета ёй споўнілася 80 год. **31.** Контур. **32.** Беларускае тэлеграфнае агенства (абр.). **33.** Вузкая палоска зямлі. **35.** Дасягненне ў літаратуры, мастацтве і інш.

*Склаў Лявон ЦЕЛЕШ, г. Дзяржынск*






*Крыніцы ведаў і гонару*

*Землякі ў свеце*

*Барыс БАРОЎСКІ*



# Ураджэнцы Беларусі ў арміі Андэрса падчас Другой сусветнай вайны

**(Працяг. Пачатак у № 29–33)**

І толькі пасля прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах» ад 17 красавіка 1992 г. былыя «андэрсаўцы» з 1 студзеня 1993 г. былі афіцыйна прызнаны ветэранамі вайны. У адпаведнасці з Законам Польшчы «Аб забеспячэнні работнікаў у адстаўцы і іх сем'яў» былыя ваеннаслужачыя Польскіх узброеных сіл на Захадзе пастановай Савета Міністраў Польшчы ад 24 красавіка 1995 г. былі пастаўлены на ўлік у польскіх консульскіх аддзелах у Беларусі, ім польскім бокам стала аказвацца пэўная сацыяльная дапамога. На верасень 1995 г. у Беларусі пражывала 25 былых ваеннаслужачых Польскіх узброеных сіл на Захадзе, у тым ліку 23 былыя вайскоўцы 2-га польскага корпуса пад камандаваннем генерала У. Андэрса. Цяпер у Беларусі пражывае адзін былы воін – наводчык 3-й батарэі 2-га дывізіёна 5-га палка лёгкай артылерыі 5-й крэсавай дывізіі 2-га польскага корпуса наш зямляк Якуб Конан.

## Жыццёвы і баявы лёс ураджэнцаў

### Маладзечаншчыны – вайскоўцаў арміі Андэрса

Пры заканчэнні дадзенай навукова-даследчай работы аўтару сталі вядомы новыя прозвішчы ўраджэнцаў Маладзечаншчыны, якія прымалі ўдзел у баявых дзеяннях у Італіі ў гады Другой сусветнай вайны ў складзе 2-га польскага корпуса. Ніжэй прыводзяцца звесткі аб іх жыццёвым і баявым лёсе, запісаныя са слоў дзяцей і ўнукаў былых вайскоўцаў арміі Андэрса. Усе яны на час выканання гэтай работы пражывалі ў Маладзечне.

### Бубен Мікалай Данілавіч

Нарадзіўся 09.02.1905 г. у Маладзечне. Ажаніўся з Ганнай Антонаўнай, з якой яны пражывалі ў бацькоўскай хаце па вул. Віленская, д. 80. У 1927 г. нарадзілася дачка Вольга. У красавіку 1941 г. Мікалая Данілавіча арыштавалі па абгаворы і 2 месяцы трымалі пад следствам у Маладзечанскай турме, праводзілі допыты.

Пасля нападу Германіі на СССР разам з іншымі зняволенымі ён быў вывезены ў Табольскую турму (Расія), а пасля аб'яўленай амністыі ў лютым 1942 г. уступіў у польскую армію, якая фарміравалася на тэрыторыі СССР (ст. Лугавая ва Узбекістане). У якасці стралка 3-й стралковай дывізіі 2-га польскага корпуса ўдзельнічаў у Італіі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у тым ліку ў баях за Монтэ-Касіна. Узнагароджаны Памятным крыжам Монтэ-Касіна, Зоркай Італіі, Зоркай 1939–1945, Памятным крыжам і Памятнай адзнакай 3-й стралковай дывізіі.

Пасля вайны ў маі 1947 г. вярнуўся дамоў. Але паколькі ў час вызвалення Маладзечна была знішчана іх хата, яму з сям'ёй часова прыйшлося жыць у хаце жончынага брата ў Вялікім Сяле. Яго дачка пасля вызвалення Маладзечна выйшла замуж за М.Н. Чайку і разам з мужам і маці ў 1945 г. пачала адбудоўваць хату па вул. Віленская, 80. Мікалай Данілавіч дапамог яе дабудаваць і ўсе яны перайшлі ў гэтую хату жыць. Мікалай Данілавіч працаваў на будоўлі гармалзавода, затым конюхам на гэтым заводзе. 29.03.1951 г. да іх у хату зайшоў работнік міліцыі і цікавіўся акалічнасцямі ваеннага жыцця Мікалая Данілавіча. Паколькі на вакзале з'явіўся эшалон для перавозкі людзей і прайшлі чуткі аб магчымай высылцы салдатаў арміі Андэрса з Беларусі, сям'я закалола парсюка, каб у дарогу можна было ўзяць мяса.

Прыкладна ў гадзіну ночы з 31.03 на 01.04.1951 г. пад вокнамі іх хаты з'явіліся работнікі ўнутраных спраў з вінтоўкамі, увайшлі ў хату, зрабілі вобыск. Загадалі Мікалаю Данілавічу з жонкай грузіцца на машыну і адвезлі



*Мікалай Бубен (другі справа) са ссыльнымі на будаўніцтве чыгункі. Іркуцкая вобл., 1952 г.*

іх на чыгуначны вакзал. З сабой дазволілі ўзяць прадукты харчавання, адзенне. Цягнікам іх даставілі да г. Усолле Сібірскае Іркуцкай вобласці, а затым трактарам на санях да п. Ягат. Жылі ў бараку, затым у хаце, пабудаванай самімі ссыльнымі. Мікалай Данілавіч працаваў на лесапавале, яго жонка на будоўлі хат для ссыльных. За час знаходжання ў ссылцы да іх тройчы прыязджала дачка.

У 1956 г. Мікалай Данілавіч з жонкай самавольна вярнуліся дамоў, за што іх арыштавалі і з 12.09 па 08.10.1956 г. трымалі ў турме Маладзечна. Яны былі вызвалены па хадайніцтве дачкі (Вольгі Мікалаеўны) пастановай пракуратуры БССР, паколькі жонка з 1940 г. з'яўлялася дэпутатам Маладзечанскага гарсавета і была недатыкальнай асобай. За сваё дэпутатства яна ў час вайны падвяргалася переследу немцамі, ёй пагражалі расстрэлам. Пасля вызвалення з турмы Мікалай Данілавіч працаваў грузчыкам у міжрайгандлі. Памёр 25.10.1989 г. Яго жонка працавала на базе агародніны. Памерла 10.03.1974 г.

*(Са слоў дачкі – Вольгі Мікалаеўны Чайкі, 08.07.1927 г.н.).*

**(Працяг на стар. 8)**

*(Працяг. Пачатак на стар. 7)*

### *Бялько Аляксей Тадэвушавіч*

Нарадзіўся 12.01.1903 г. у в. Дамашы. Як былы салдат гэтай арміі разам з жонкай і дачкой знаходзіўся ў ссылцы ў п. Ягат Іркуцкай вобласці. Будучы ў ссылцы, дачка (Ніна Аляксееўна) выйшла замуж за літоўца і пасля ссылкі з мужам і бацькамі паехала жыць у г. Каўнас. Па словах І.М. Мураўскага, які разам з бацькам (М.С. Мураўскім) і сям'ёй Бялько быў у сібірскай ссылцы, А.Т. Бялько з жонкай не мелі права ехаць дамоў, паколькі яму было дазволена пражываць не бліжэй, чым за 100 км ад Мінска. Аляксей Тадэвушавіч з жонкай былі незадаволены пераездам у Каўнас, сумавалі па Беларусі, там і памерлі. Дачка з сям'ёй засталася ў Каўнасе.

Аляксей Тадэвушавіч быў узнагароджаны Памятным крыжам Монтэ-Касіна і медалём Войска [з кнігі «Spod Monte Cassino na Sybir» («З пад Монтэ-Касіна на Сібір». Варшава, 1998)].

(Са слоў В.М. Чайкі – дачкі М.Д. Бубена, які разам з А.Т. Бялько быў у ссылцы, 08.07.1927 г.н.).

### *Капцюг Якаў Сямёнавіч*

Нарадзіўся 24.10.1908 г. у в. Вялікае Сяло Цюрлёўскага сельсавета, жыў з бацькамі. У 1939 г. ажаніўся з Кацярынай Емяльянаўнай і неўзабаве быў прызваны ў польскае войска і адпраўлены на фронт на германа-польскую вайну. Пасля вызваленчага паходу Чырвонай Арміі трапіў у савецкі ваенны палон.

Быў амнісціраваны і 09.09.1941 г. уступіў у польскую армію на тэрыторыі СССР. У складзе 6-га артпалка 6-й дывізіі 2-га польскага корпуса прымаў удзел у бітве за Монтэ-Касіна і іншых супраць нямецка-фашысцкіх войск у Італіі (быў шафёрам). Узнагароджаны польскімі Памятным крыжам Монтэ-Касіна, медалём «За удзел у абарончай вайне 1939 года», вялікабрытанскімі Зоркай вайны 1939–1945, Зоркай Італіі і памятнай адзнакай 6-й дывізіі львоў. З Італіі ў складзе 2-га польскага корпуса быў пераведзены ў Вялікабрытанію.



***Каля магілы памерлай у ссылцы маці Якава Капцюга. Спераду сядзяць ягоныя сястра і сын, за сынам – дачка. Трэцяя справа стаіць жонка Я. Капцюга. Іркуцкая вобл., 1956 г.***

З Вялікабрытаніі пасля знаходжання (з 22.08 па 05.09.1947 г.) у праверачна-фільтрацыйным лагеры № 277 (г. Волау) у верасні 1947 г. вярнуўся дамоў. Стаў працаваць конюхам у калгасе. У яго сям'і ў 1950 г. нарадзіўся сын Аляксандр. Ноччу 01.04.1951 г. у яго хату зайшлі 2 узброеныя савецкія ваеннаслужачыя і загадалі збірацца на высылку. На збор далі 5 гадзін. З сабой дазволілі ўзяць адзенне і прадукты харчавання. Хату, хлеў і хатнюю жывёлу канфіскавалі на карысць калгаса. Якава Сямёнавіча з жонкай і маленькім сынам, яго маці Анастасіяй Якаўлеўнай і сястрой Вольгай Сямёнаўнай на машыне павезлі на чыгуначны вакзал г. Маладзечна, дзе ўжо стаяў цягнік са ссыльнымі. Высылка здзейснена па пастанове асобай нарады пры МДБ СССР ад 11.08.1951 г. У Сібір Якава Сямёнавіча павезлі асобна ад астатніх членаў сям'і, і на месца, у п. Ягат Усольскага раёна Іркуцкай вобласці, ён прыбыў раней за іх. Жылі ў бараку на 7 сем'яў. Якаў Сямёнавіч працаваў на лесапавале, яго сястра на пілараме, а жонка з маці і дзіцем заставаліся дома на гаспадарцы. Маці Якава Сямёнавіча там памерла і пахавана. І там жа ў 1953 г. нарадзілася дачка Ганна.

У сакавіку 1958 г. сям'я вярнулася дамоў. Па дарозе дамоў у цягніку дачка Ганна перахварэла на адзёр (ехалі 2 тыдні). Іх хата была разбурана і таму часова жылі ў хаце бацькоў Кацярыны Емяльянаўны, пакуль не зрабілі сабе хату, у якую пераехалі жыць да зімы 1958–1959 гг. Якаў Сямёнавіч працаваў вартаўніком на мелькамбінаце аж да выхаду на пенсію. Памёр 02.02.1997 г. Яго жонка заставалася хатняй гаспадыняй, пражывае ў г. Маладзечна па вул. Вялікасельская, д. 179.

*(Са слоў дачкі – Ганны Якаўлеўны Гісіч, 24.08.1953 г.н.)*

### *Каханоўскі Міхаіл Мікітавіч*

Нарадзіўся 03.05.1909 г. у в. Дамашы. Ажаніўся з дзяўчынай (Ганнай) з в. Капачы. З ёй пабудаваў у Дамашах хату. У іх нарадзіліся сын (неўзабаве памёр) і дачка. Быў прызваны ў польскае войска і накіраваны на фронт на германска-польскую вайну.

Пасля вызваленчага паходу Чырвонай Арміі апынуўся ў савецкім ваенным палоне і па амністыі ўступіў у польскую армію. У складзе 2-га польскага корпуса ўдзельнічаў у баявых дзеяннях супраць нямецка-фашысцкіх войск у Італіі, у тым ліку ў баях за Монтэ-Касіна. Пасля вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі, адкуль у 1947 г. вярнуўся дамоў.

Паколькі яго жонка з дачкой знікла (па словах суседзяў, з'ехала з партызанамі), вымушаны быў працягнуць сумеснае жыццё з Марыяй Аляксееўнай (жанчынай з в. Вязавец), з якой пабудаваў новую хату, бо ранейшая хата была спалена ў час вайны. З часам у іх наладзілася гаспадарка. Нарадзіліся сыны Міхаіл (у 1948 г.) і Уладзімір (у 1951 г.).

Ноччу з 31.03 на 01.04.1951 г. да іх хаты на фурманках пад'ехалі ўзброеныя работнікі спецорганаў. Увайшлі ў хату і аб'явілі аб высылцы Міхаіла Мікітавіча з Беларусі. Запыталі жонку (яны жылі грамадскім шлюбам): паедзе яна на высылку ці застанецца дома? Яна адказала: куды паедзе муж, туды паеду з дзецьмі і я. Хату і маёмасць канфіскавалі. З сабой дазволілі ўзяць самае неабходнае. Былі дастаўлены да г. Усолле Сібірскае, а потым да п. Ягат. Жылі спачатку ў бараку, а потым у адной з хат, пабудаваных самімі ссыльнымі. Міхаіл Мікітавіч працаваў на будоўлі хат для ссыльных, а потым на лесапавале. Жонка заставалася хатняй гаспадыняй. У абмен на прывезеныя рэчы набылі карову, свінню, быў у іх і агарод. У сям'і нарадзіліся дочкі Вера (у 1954 г.) і Галіна (у 1957 г.). Аднавяскоўцы ў час ссылкі прысылалі сям'і прадуктовыя пасылкі.

*(Працяг будзе)*

## *У тэатры «Зьніч»*

**Васемнаццаты тэатральны сезон Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зьніч» пачынае 17 верасня д**вума спектаклямі. Удзень маленькія гледачы пабачаць філасофскую казку Сяргея Кавалёва **«Маленькі анёлак»** паводле вершаў Кармэн Барнос дэ Гаштольд. Вечная тэма – сяброўства, імкненне прыйсці на дапамогу, падтрымка ў цяжкую хвіліну... Маленькі анёлак трапляе на зямлю, каб знайсць самую няшчасную істоту. Выканаўца – Раіса Астрадзінава.

Увечары дарослыя гледачы запрашаюцца на монаспектакль **«Нобіль – барвяны ўладар»** паводле аповесці Уладзіміра Караткевіча «Сівая легенда». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шэлестаў раскажа пра старажытную Беларусь, пабачаную вачыма іншаземнага найміта.

**20 верасня** Галіна Дзягілева запрашае на музычна-драматычны монаспектакль **«Пачакай, сонца»** паводле рамана Ліны Кастэнка «Маруся Чурай», твораў еўрапейскай паэзіі і вершаў Ніны Мацяш. Кампазітар – Алег Залётнеў.

Удзень **24 верасня** дзеці пабачаць лялечны монаспектакль **«Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага»** паводле аповесці Пятра Васючэнкі і Сяргея Кавалёва. Прыгоды шалапутных паноў весяляць і прымушаюць задумацца гледачоў. Выканаўца – Вячаслаў Шакаліда.

Увечары 24-га – монаспектакль **«Не праклінай, што я люблю»** паводле вершаванага рамана Ніла Гілевіча «Родныя дзеці». У пастаноўцы ўдзельнічаюць Мікола Лявончык і цымбалістка Дар'я Неўмяржыцкая.

Удзень **25 верасня** дзеці пабачаць яшчэ адзін лялечны монаспектакль – **«Пра ката Сафрона і пеўніка Андрона»** Л. Мікіты ў выкананні Леаніда Сідарэвіча.

Увечары ажыве выдатная казка Антуана Сэнт-Экзюперы «Маленькі прынц» у перакладзе Ніны Мацяш. Спектакль Алены Шапко называецц **«Мой Маленькі прынц»**.

*Дзённыя спектаклі пачынаюцца а 14 гадзіне, вечаровыя – а 19-й. Даведкі можна атрымаць па мінскіх тэлефонах 231-75-53, 615-26-79 і 615-28-99.*

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ГЕРБ** (першапачатковае паходжанне ад ням. спадчына) – эмблема (ад грэч. рэальная аздоба), спадчынны знак адрознення, спалучэнне фігур і прадметаў паводле рэгламентаваных норм геральдыкі, якія маюць сімвалічнае значэнне і якія выяўляюць старажытныя традыцыі ўладальніка. Гербы былі і ёсць рознага прызначэння – дзяржаўныя, зямельныя (гарадоў, губерняў, абласцей, правінцый рознага ўзроўню), карпарацыйныя (сярэдневяковых цэхаў – аб'яднаўнняў па прафесіях), родавыя (княскія, шляхецкія, дваранскія). Выяўляліся на сцягах, шчытах, пячатках, манетах, зброі, збудаваннях, хатнім начынні, творах мастацтва, рукапісах, кнігах і інш.



***Пячатка полацкага князя Ізяслава (сына Рагнеды) з трызубам***



***«Пагоня» на княскай пячатцы Аляксандра Неўскага (крывіцкі герб, атрыманы ім у якасці своеасаблівага пасагу ад жонкі – полацкай князёўны Аляксандры)***

Дзяржаўны герб засведчыўся з III-га тысячагоддзя да н. э. (у шумерскіх дзяржавах, Ст. Егіпта, Ст. Грэцыі і інш.). Тады звычайна адлюстроўвалі жывёл-апекуноў племя альбо роду. Старажытныя славяне пакінулі пра сябе памяць тым, што родавыя або сямейныя знакі маёмасці («меткі», «клеймы», «рубяжы» і інш.), якія пазначалі на прадметах і рэчах. У эпоху, названай пачаткам утварэння Кіеўскай Русі, часта сустракаецца выява трызубца. У тым ліку і на некаторых сённяшніх беларускіх землях, што мелі цесныя сувязі з тагачасным Кіевам. Гербы дваранскіх родаў узніклі ў Заходняй Еўропе ў XI–XIII стст. пасля Гарадзельскай уніі 1413 г., калі на новым этапе, пасля Грунвальскай бітвы 1410-га, былі агавораныя ўмовы саюза польска-беларуска-літоўскіх і іншых земляў у адной дзяржаве, гербы пачалі пашырацца сярод шляхты Беларусі. Уласна беларускі герб упершыню апісаны ў працах польскага даследчыка Я. Длугаша (1415–1480), які вывучаў гісторыю ВКЛ, і іншых вучоных. Старажытныя гербы складаліся з васьмі элементаў – шчыта, шлема, нашлемніка (у ім часта пазначаліся вайсковыя знакі адрознення), намёта (дэкаратыўнае ўпрыгожанне ў выглядзе стылізаваных раслін, стужак), мантыі, шчытатрымальніка (выявы звяроў, фантастычных істот, анёлаў), дэвіза. Асабліва адмыслова і сімвалічна змястоўна размалёўваліся шчыты.

Гарадам у Беларусі XVI–XVIII стст. гербы звычайна даваліся з Магдэбургскім правам. Напрыклад, гербы Брэста, Віцебска, Мінска, Гродна, Магілёва, Слоніма, Мазыра, Навагрудка, Нясвіжа, Пінска, Пружан, Ліды, Камянца, Радашковіч, Кобрына і інш. пісьмова засведчаныя яшчэ ў XVI ст. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі складваліся і зацвярджаліся новыя гербы беларускіх гарадоў, у якіх выхалошчвалася старажытная беларуская гісторыя і ўводзілася іншая, часамі абстрактная сімволіка.

Пасля ўстанаўлення савецкай улады і ў сувязі з яе дэкрэтам «Аб скасаванні саслоўяў і грамадзянскіх чыноў» былі скасаваныя правы на асабістыя гербы. З утварэннем саюзных рэспублік СССР кожная з іх займела свой герб на аснове савецкіх сімвалаў.

У 1991 г. з набыццём статуса незалежнай суверэннай краіны Дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь адноўлены старажытны герб «Пагоня». Пасля рэферэндума 1995 г. быў зацверджаны Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь з выявай геаграфічнага контуру Беларусі і пяціканцовай зоркі наверсе.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 334 61 62.
Тэл./факс 334-42-03
E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 06.09.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 1075.
Тыраж 1270 асобнікаў.